Год III. Чэрвень № 6 (29)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.







ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 6.



*Просім пашыраць «Шлях Моладзі» і прысылаць падпіску (грошы)!*


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл..
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Чэрвень 1931 г. | № 6 (29). |
| --- | --- | --- |

# Сучаснасьць і беларуская моладзь.

„Цёмны і бедны край беларускі", кажуць людзі, якія хоць крыху пабылі ў ім, але чаму ён цёмны і бедны, мала хто над гэтым застанаўляецца.

Беларусь, як ведаем з гісторыі, ад XVI стагодзьдзя, дзякуючы незараднасьці нашага баярства, страціла сваю самастойнасьць і пераходзіла з рук аднаго валадара ў рукі другога, — была яна полем барацьбы расейскага і польскага нацыяналізму. Тагочасныя валадары нашага краю мала дбалі аб яго гаспадарчым і культурным разьвіцьці, глядзелі на яго, як на часовую здабычу, з якой стараліся выцягнуць як найбольш карысьці для сябе.

* * *

Сяньня мы таксама ня маем свае дзяржавы — Беларусь падзелена. Найбольшая частка — Усходняя і Цэнтральная Беларусь — ёсьць Радавай Сацыялістычнай Рэспублікай і належыць да Расеі (Р.Ф.С.Р.). У Радавай Беларусі ёсьць шмат школаў ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых, многа арганізацыяў і ўстаноў, у якіх усё вядзецца ў беларускай мове, шмат друкуецца кніжак пабеларуску і інш. Усё здавалася-б упарадку, — аднак далёка ня так! Радавая Беларуская Сацыялістычная Рэспубліка не самастойная, а як частка С.С.Р.Р. — знаходзіцца пад уладай Масквы. Школы, установы, гаспадарчая „рэформа", кніжкі пабеларуску і ўсё іншае праводзіцца на аснове чужой, нявыгаднай, незразумелай для беларускага народу тэорыі Маркса, пад кіраўніцтвам Масквы.

У другой частцы — Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад уладай Польшчы, беларускі народ у тэорыі мае права свабоднага культурна-прасьветнага і нацыянальнага разьвіцьця, загварантаванае нават міжнароднымі трактатамі (Вэрсальскім, Рыскім) і польскай канстытуцыяй. Але гэта толькі на паперы, а ў практыцы зусім інакш. Вось-жа ёсьць тут у нашым краі школы, гаспадарчая рэформа, свабода слова і ім падобныя дабрадзействы. Аднак, глянуўшы на гэта ўсё, неяк сумна на душы робіцца.

Але мы аб усім гэтым ня будзем пісаць, мы глянем толькі на справу школьніцтва.

Маемо мы школы, але пераважна ўсе польскія, якія ня могуць здаволіць патрэб беларускага народу, і толькі ўсяго, паводле ўрадавай статысгыкі, ёсьць 21 школа, дзе вучаць пабеларуску і 41 — польска-беларуская.

Дэкрэтам Прэзыдэнта Польшчы аб школьніцтве з дн. 2.XII.1930 году, дзе сказана: „зьмена выкладовай мовы (у школе — Рэд.) можа наступіць, не раней, як пасьля 7 гадоў ад даты ўправамацненьня апошняе пастановы, акрасьляючай выкладовую мову ў данай школе“, беларусы пазбаўлены магчымасьці ў хуткім часе мець сваю беларускую школу.

У Польшчы маемо ўсяго 3 беларускія гімназіі: у Вільні, Наваградку і Клецку, з якіх толькі дзьве першыя з дзяржаўнымі правамі, трэцюю-ж, у Клецку, цяпер школьныя ўлады ліквідуюць, не даючы канцэсіі на 1931-1932 школьны год.

Трэба ведаць, што Клецкая Беларуская Гімназія ёсьць прыватнай і ўтрымліваецца выключна з ахвяр беларускага грамадзянсва, а так-жа, што большасьць вучыцялёў гімназіі мае вышэйшую асьвету; закрыцьцё гэтай гімназіі крыўдзіць беларускі народ, бо нават не дае магчымасьці мець сваю прыватную гімназію.

Вось абраз палажэньня двух з палавінай мільённага (паводле польскае статыстыкі блізу двух мільённага) народу беларускага пад Польшчай.

Апошнім-жа часам урад яшчэ хоча павысіць плату за навуку ў унівэрсытэтах да 1000 зл. у год, чым бадай зусім будзе пазбаўлена магчымасьці вучыцца моладзь бедных беларускіх бацькоў.

Пасьля гэтага хіба-ж нікому дзіўным ня будзе, што край беларускі цёмны, бедны і закінуты, што пануе ў нас разбой і, што мае спорнасьць камуністычная агітацыя.

Усё гэта найцяжэй адбіваецца на нас, беларускай моладзі. Дзеля гэтага мы павінны ўважна прыглядацца да беларускага жыцьця і ўзяць пад увагу тое цяжкое маральнае і матэр'яльнае палажэньне, у якім беларускі народ апынуўся, ня слухаць баяк і абяцанак з Усходу і Заходу, ня марнаваць часу, а старацца, ці то паасобна, ці арганізавана, закладаючы гурткі беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў, коопэратывы, працаваць для палепшаньня долі беларускага народу, працаваць над усьведамленьнем яго, каб мог палепшыць свой быт матэр'яльны, каб мог стаць на вышэйшы ровень культуры і асьветы.

Гэта наша заданьне.

Я. Н.

# На вакацыях.

Мінуў год школьны. З радасьцяй вучні варочаюцца да сваіх гоняў родных, да сваіх хат пахілых. Пара адпачыць на пахучых лугах, на шырокіх палях. Як-жа хочацца шырока ўздыхнуць свабоднымі грудзьмі на вольным паветры!

Так, адпачыць трэба па цяжкой працы школьнага году.

Адложым мы ў старану лаціну, адложым альгебру і нямецкі, каб адпачыць, аднак прыступім да другой працы працы вялікай і сьвятой, якая нас ня змучыць, бо яна выплывае з быту нашага. Дык будзема-ж мы тымі першымі ластаўкамі, якія прыносяць братом нашым гаротным весьць што надыдзе дзень шчасьця для народу нашага.

Усюды і заўсёды сейбітамі лепшай долі народу ў прошласьці была моладзь, няхай-жа і ў нас так будзе. Няхай-жа ніводзен з нас, выходзячы з школы не пераступіць парогу сваей хаты, каб не падумаць, дзе і што мае рабіць. Ці мы будзем у дарозе, ці мы будзем на вечарыне, ці ў гасьцях, ці пры працы, заўсёды павінны мы помніць аб нашым заданьніі — будзіць братоў нашых гаротных з адвечнага сну і лучыцца з імі ў працы на родным загоне. Спаткаўшыся са старым дзядулям, які ня меў мо' шчасьця вучыцца, мы павінны паслухаць яго вывадаў і далей пацешыць, што не заўсёды гора будзе для нашага народу, што засьвітае для нас зорка шчасьця; спаткаўшы суседа мы павінны яго перадусім усьведаміць, расказаць яму, што дзеецца на шырокім сьвеце, што пішуць газэты, да чаго і якімі дарогамі цяпер імкнецца наш народ. Маладому хлапцу, ці дзяўчыне павінны мы прыпомніць, што ня толькі трэба забавіцца, патанцаваць, але трэба таксама прачытаць газэту, кніжку, трэба пазнаёміцца з грамадзкім жыцьцём наагул, а па сіле і магчымасьці залажыць культурна-прасьветную арганізацыю, як напр. гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры і г. д.

На равесьнікаў і малодшых ад нас мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Яны нам найбольш і найлепш вераць, мы ім бліскія знаёмыя і прыяцелі. Не адзін можа з іх хацеў-бы вучыцца, але ня суджана яму было. Да такіх мы падходзьма, як іхныя калегі і прыяцелі моладасьці, мы ім скажамо, хто мы ёсьць, якая наша мэта, — яны нас найлепш зразумеюць, яны для нас найлепшымі будуць супрацоўнікамі.

Працуйма-ж, калежанкі і калегі, ня боймася труднасьцяў і мейма сільную веру, што калі сягоньня на ніве адраджэньня нашага народу працуюць дзесяткі ці сотні моладзі, то заўтра будуць працаваць тысячы, і незадоўга надыдзе той час, калі ад Нёмна шырокага па Сож ціхі і ад Прыпеці аж за берагі Дзьвіны серабрыстай будуць разлягацца грымучыя песьні вольнай і незалежнай нашай Бацькаўшчыны Беларусі.

**Я. Мал.**

# Крыху з нашай гісторыі.

## Змаганьне Полацкага князьства з Кіеўскім.

Як ужо ведама з папярэдніх нумароў „Ш. М.“ Полаччына мела сваіх мясцовых князёў ад часу стварэньня вышэйуспомненага княз ьства. Але прышоў час, калі ўсходнія Славяне, як кажа летапісь, паклікалі сабе на князёў варагаў у 862. г. Да прыходу варажскіх князёў мы ніводнага з сваіх даўнейшых князёў па імёнах ня знаем, бо ў ніякіх старадаўных гістарычных дакумэнтах іменаў тых не знаходзім. Адно ведаем, што да прыходу варажскіх князёў ужо былі нейкія спрэчкі між Полацкім і Кіеўскім княз ьствамі. Родзічы закліканых варагаў, Аскольд і Дзір, хутка захапілі ўладу ў Кіеве, дзе, зарыентаваўшыся ў мясцовых абставінах і сабраўшыся з сілай, зажадалі пашырыць тэрыторыю сваей дзяржавы коштам Полаччыны — і такім чынам распачалі вайну з Полаччынай.

Аб гэтым даведываемся з Нікапаўскага летапісу, дзе кажыцца так: „*Аскольд і Дір воеваша Полачан и многае зло им сотвориша*“.

Пасьля Аскольда і Дзіра князёўскі пасад заняў у Кіеўшчыне Алег, які жыў ад 879 да 912 г.

Алег фактычна зьяўляецца першым гістарычным князем Кіеўшчыны, які пачаў цэнтраваць усялякія плямёны каля свайго княз ьства. Падпарадкаваныя чужыя плямёны мусілі даваць дань Кіеўшчыне, скуль і паходзіць слова „подданцы.“

Смаленскія Крывічы сталіся падданымі Кіеўшчыны пасьля таго, як кіеўскі князь бяз ніякіх змаганьняў захапіў пад сваю ўладу Смаленск і, як кажа летапісь, „посади в нем муж свой.“ Трэба тут аднак сьцьвядзіць на падставе пэўных дадзеных, што Полацак і Смаленск ня былі палоньнікамі, ці рабамі Кіева, але яго супольнікамі ў змаганьні з Візантыяй.

Гэты факт пацьвярджаецца тым, што ў паходах Алега на Візантыю, Смаленск і Полацак бралі ўдзел. Праўда, Алег у далучаных гарадох ставіў сваіх мужоў, але яны былі пераважна прадстаўнікамі эканамічных інтарэсаў кіеўскага князя. Справы гарадоў і валасьцяў вялі мясцовыя вечы і князі.

І толькі пры наступніках Алега залежнасьць Полаччыны ад Кіева паступова і паволі пачынае ўпадаць. Дзякуючы гэтаму ўжо пад канец X ст. Полаччына, дзе княжыць Рагвалод, стаецца незалежнай. Можна дадумывацца, што Рагвалод быў патомкам мясцовых князёў, якія раней княжылі ў Полацку. Аб гэтым можа сьведчыць Рагвалод і яго дачка Рагнеда, якіх імёны ёсьць чыста славянскага паходжаньня.

Тады, калі ў Кіеўшчыне адбываліся хатнія спрэчкі князёў, Рагвалод скарыстаўшы з гэтага пашырыў сваю

тэрыторыю, далучаючы Тураўскае князьства, каторае залежыла ад Кіева. Кожны з пасвараных сыноў кіеўскага Сьвятаслава шукаў сабе дапамогі ў Рагвалода. А дзеля гэтага абодва браты, Яраполк і Ўладзімер, кожны стараўся ўзяць Рагнеду за жонку, каб гэтакім чынам палітычную сувязь зацьвярдзіць і ўмацаваць сваяцтвам. Але Рагнеда, даведаўшыся, што Ўладзімер быў сынам рабыні, адмовіла ягоным сватам, а за Яраполка выйсьці замуж згадзілася.

Даведаўшыся аб гэтым Уладзімер пайшоў вайной на Полацак у 980 г., разьбіў полацкае войска, зруйнаваў горад, забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а Рагнеду забраў у Кіеў і прымусіў быць сваей жонкай. Мелі яны чатырох сыноў і дзьве дачкі; старшы з сыноў быў Ізяслаў.

Рагнеда памятаючы заўсёды крыўды, якія зрабіў Уладзімер, яе муж, для Полаччыны, ня любіла яго вельмі, а дзеля гэтага былі частыя спрэчкі ў князеўскіх палацах. Нават да таго дайшло, што аднаго разу Рагнеда хацела забіць Уладзімера, але ён хапіўся за меч, каб засячы гордую палачанку, аднак перашкодзіў яму яго маленькі сын Ізяслаў, які таксама стаў з мечам у абароне маткі. За гэты гераізм так спадабаўся Уладзімеру Ізяслаў, што ён даў яму ў насьледзтва Полаччыну. А для Рагнеды ён збудаваў каля Менску новае места Ізяслаўе і адаслаў яе туды на жыцьцё ў 987 г. З гэтага пераказу мы бачым, што для кіеўскага князя было ня зусім бясьпечна трымаць каля сябе нават і жонку, калі яна была шчыраю палачанкаю, якая так гарача любіла свой край і сумавала па ім.

Толькі ад Ізяслава і пачынаецца род гістарычных полацкіх князёў, каторыя завуцца Ізяславічамі. А таксама поруч з гэтым часта летапісь называе полацкіх князёў „Рагвалодавымі ўнукамі."

Аднак спрэчкі між Полаччынаю і Кіеўшчынаю ня скончыліся пры Ўладзімеры з высылкаю Рагнеды; прынялі яны толькі іншую форму. Разгледзіўшы змаганьні Ўладзімера з Яраславам Кіеўскім з аднаго боку і Яраполкам Тураўскім з другога боку і ўнікнуўшы ў гэтую гісторыю нам стануць яснымі прычыны змаганьня.

Як мы ўжо ведаем, Рагвалод у часе спрэчак кіеўскіх князёў быў прылучыўшы Тураўскае князьства да Полацкага, але Ўладзімер зноў адабраў гэтае князьства і прылучыў яго да Кіеўшчыны, як асобную воласьць. Гэтым самым Тураўскае князьства страціла сваю незалежнасьць, якую мела пад панаваньнем Рагвалода. Тураў знаходзіўся на Прыпяці, г. зн. на водным шляху. Дзякуючы гэтаму Тураў і Полацак мелі сувязь з Захадам і ў іх заўважываліся выразныя ўплывы Захаду. Такім чынам Полацак з Туравам мелі кірунак заходні, а Кіеўшчына чыста Усходня-паўднёвы — візантыйскі. Каб зрабіць адналітасьць у сваей дзяржаве, кіеўскія князі стараліся праводзіць свой кіеўскі кірунак і ў Тураўшчыне. Тут княжыў Сьвятаполк Уладзіміравіч, але

сын ня мог зрэалізаваць надзеяў бацькі, бо хутка сам паддаўся пад заходнія ўплывы. Аб гэтым можа быць выразны прыклад, што Сьвятаполк ажаніўся з дачкой польскага караля Балеслава I, каторая была хрысьціянкай заходняга абраду.

Сьвятаполку зажадалася ўнезалежніцца ад Кіева, бо спадзяваўся на дапамогу цясьця. Уладзімер, даведаўшыся аб плянах свайго старшага сына, напаў на яго і пасадзіў з усей сям'ёй і біскупам каталіцкім, які ў той час быў у Тураве, у „паруб“ (вастрог). І ўжо пасьля гэтага Сьвятаполк ня мог быць тураўскім князем.

Па сьмерці Уладзімера, Сьвятаполк, як старшы сын, павінен быў абняць князеўскі пасад у Кіеве, але лёгка не далося яму асягнуць гэтага, бо мусіў змагацца з братамі, а гэта змаганьне праводзілася дзеля рожніцы поглядаў, бо яны былі ўзгадаваны ў кірунку іншым. Барацьба закончылася на некарысьць Сьвятаполка. Яраслаў выгнаў яго з краю, дзеля чаго выгнаньнік-Сьвятаполк мусіў шукаць сабе прытулку на чужыне. Ня гледзячы на гэта, спрэчкі між Полаччынай і Кіеўшчынай ідуць сваей чаргой. Яраслаў Мудры змагаецца з Барыславам Полацкім, Ізяславічам. Прычынай гэтых спрэчак быў Ноўгарад, каторы зьяўляўся паўночным ключам воднага шляху з Варагаў у Грэкі. Апрача таго йдзе спрэчка за два гарады—Віцебск і Усьвят—таму, што гэтыя гарады мелі таксама вялікую вартасьць эканамічную.

Хто валадаў імі, той меў доступ да вышэйшага Падзьвіньня і меў надта важную частку вялікага шляху, дзе былі волакі між Дзьвіной і Дняпром. Спрэчка закончылася тым, што Яраслаў адмовіўся ад прэтэнсіі на Віцебск і Усьвят, а пытаньне аб Ноўгарадзе засталося нявырашаным.

З часу Брачыслава спрэчкі сталі няўпыннымі і безперарыўнымі, бо кіеўскія Яраславічы ўвесь час змагаюцца з полацкімі Ізяславічамі. Апрача крыўдаў Рагвалодавай і Рагнедзінай між Полаччынай і Кіеўшчынай, як яблыка заўсёднай нязгоды быў Ноўгарад, за пяршынство ўплываў якога ўва ўсходня-славянскім сьвеце доўга вялася барацьба. Самы разгар барацьбы прыпадае на часы княжаньня ў Полацку Усяслава.

**М. Пяцюкевіч.**

## Купальле.

Ці ёсьць дзе старонка, або вёска на Беларусі, дзе ня знаюць „Купальскай ночы,“ дзе-б гэтая ноч прайшла звычайна, як кожная іншая, ці ёсьць дзе бабулька старая на Беларусі, каторая не расказывала-б шмат розных дзівот аб купальскай ночы? Хіба няма! Не хацелася-б верыць, каб у гэтую ночку на ўлоньні пульсуючай прыроды, на ўлоньні родных палетакаў, дзе буйна хвалюе каласістая жыта, а рожнакалёрныя красачкі рассыпаны, як дыямэнты, па сенажацях, або тыя нашы сінявокія васілёчкі, якія прыветліва выглядаючы з жыта ўсьміхаюцца кожнаму, ды хто-колечы застаўся ў хаце — ня выйшаў урачыста правясьці гэту

сьвятую, таёмную ночку. Веру, што яшчэ і ў цяперашнія гады заглады і зьнішчэньня нашых народных традыцыяў можна пабачыць „Купальскую ночку“ у поўным яе малюнку. Яшчэ і цяпер наша моладзь грамадою выходзіць на поле і там пры распаленых агнях адбывае купальскія абрады.

* * *

Аб купальскіх традыцыйных абрадах і песьнях можна сказаць шмат, але гэтым разам арганічымся да мінімум, даючы толькі агульны агляд, важнейшых мамэнтаў успомненых абрадаў.

Самую абраднасьць можна падзяліць на дзьве часткі: 1) любоўная, якая цесна зьвязана з моладзяй і 2) аграрнагаспадарская, зьвязаная з гаспадарамі і гаспадынямі і іх штодзенным жыцьцём.

Да першай часткі належаць наступныя мамэнты абраднасьці: распальваньне агню на высокіх мясцох (пажадана над рэчкай) гульні карагодныя навокал агню, скокі (танцы) пад гукі вясковых музычных інструмэнтаў, скаканьне праз агонь, рожныя варожбы і г. д. Гэтыя мамэнты абраднасьці вельмі старыя, сягаючыя сваім пачаткам у глыбокую паганскую мінуўшчыну. Рабленьне вянкоў і пусканьне на ваду і інш. — гэта ўжо навейшы дадатак абраднасьці Купальскай, які прышоў да нас з Захаду.

Да другой часткі належаць рожныя абрады і варожбы, зьвязаныя з штодзенным гаспадарскім жыцьцём, з полем, з скацінаю, лячэньнем і г д. Прыкладам зьбіраньне „Купальскага зельля,“ качаньне на „купальскай расе,“ мыцьцё даёнак і стаўбуноў у „купальскай расе“ — усё гэта робіцца для мэтаў ачышчальных — лякарскіх і шмат іншых ёсьць абрадаў. Знаны быў даўней, а цяпер ужо занікае абрад тапленьня ў рэчцы Мары (Марэны), чучала зробленага з саломы. Пры гэтым усім абраднасьць купальская вельмі часта была пачынана песьнямі. Разглядаючы купальскія абрады і песьні трэба сказаць, што у старадаўнасьці было гэта агульна радавое сьвята, прадзначанае жаніцьбе і прыняцьцю ў лік роду новых сяброў. У даўнейшыя часы толькі на Купальле адбываліся заручыны і жаніцьбы, а водгаласам гэтага ёсьць сяньняшнія купальскія варожбы дзявочыя і „кумоўства з пабратымствам.“ Эротызм і хаўтурны элемент (тапленьне мары) бярэ пачатак з старынных традыцыйных крыніцаў. Трэба зазначыць, што „Купальле“ знае толькі Беларусам. У Палякоў падобная ёсьць „Собутка.“

З гэтага вынікае, што народ наш умее шанаваць свае прадзедаўскія традыцыі, дык і далей павінен шанаваць, бо нашы трацыцыі ёсьць дакумэнтам нашай праўдзівай беларускай душы. Яны сьведчуць, што народ наш жыў сваім жыцьцём і павінен жыць. Асабліва моладзь наша павінна пераймаць ад бацькоў усе народныя традыцыі і глыбока захоўваць іх у сваіх душах, шанаваць іх і жыць імі.

**Марвіч.**

# Літэратурны аддзел.

* * *

Конь мой цягне плуг дзераўляны,
Па каменьнях ён скача-дрыжыць...
Шнурочак мой вузкі-пяшчаны
Стужкай шэрай у полі ляжыць.

Суседзі даўно пааралі,
Мой сірочы астаўся загон:
Пырнік-зельле яго спанавалі
І з усіх заглушылі старон.

„Ці ня быў ты дзе ад сьпякоты
Зэхаваўшыся доўга у цень,
Як на ніве роднай асоты
Запускалі глыбока карэнь?

„Калі людзі кругом ўвіваліся
І рабіў кожны ўласным свой дом,
Над табой мо‘ злыдні сьмяяліся,
Што зрабілі цябе бадылём?..“

Ці здаецца, ці жаліцца гэтак —
Проста сэрца ў грудзях забаліць —
Мой вузкі, пяшчаны палетак,
Што істужшай у полі ляжыць...

**Л. Смаленскі.**

## ЭХ, КАБ МНЕ КРЫЛЬЛЯ...

Эх, каб мне крыльля свабоднае птушкі,
Каторай няволя ня зможа зьвязаць—
Я ўзьляцеў-бы над край Беларускі,
Каб усіх на змаганьне склікаць.

Крыльляў размахам і быстрым палётам
Лятаў-бы, склікаў-бы загнаных братоў,
Будзіў-бы, ахвоціў да важнай работы
Якую зачаці я сяньня гатоў.

Узьляцеў-бы высока, дзе хмары павісьлі
І сонца праменьні скрываюць ад нас —
Я асьвяціў-бы ўсе зрадныя мысьлі
І хмары,туманы разьвеяў-бы ўраз.

— — — — — — — — — — — — —

З высока-прастору тады ўсяму сьвету
Сказаў-бы, што там беларус
Паўстаў не на гульню, а проста на гэта,
Каб ськівуці рабства прымус.

**Канарка.**

## НАМ ЖЫВЕЦЦА...

Нам жывецца вельмі кепска
Беларусам,
Бо жывём мы днём і ночай
пад прымусам!
Днём і ночай мы чакаем
выбаўленьня,
Днём і ночай спадзяёмся
уяўленьня!
Але мусіць мы чакаем
ўсё напрасна,
Бо чужынцам ў нас жывецца
вельмі красна!
Дзеля вас ня будзе сваркі
ў белым сьвеце,
Дык, як відна, мусім вечна
мы гібеці,
Мусім вечна мы ў няволі
жыці—быці!

І у роспачы — ня дай Бог —
вечна быці!
Не даждзэмся мы, браточкі,
ласкі панскай,
І ад „сябраў“ із усходу
праўды райскай!
Дык мы мусім ўсе адважна
ўласнай сілай,
Бараніці сваю Волю
й Маткі мілай!
А зямелька, родна маці,
нас накорміць,
Хмарка цёмная з палудня
нас напоіць!
Сонца ласкава із неба
абагрэець,
Роднай сілай вецер буйны
прыгалубіць!

**М. Нядоля.**

* * *

Зеляняецца луг,
Драч крычыць у траве —
Дзе ня глянь, — ўсё ўвакруг
Кліча, цягне, заве...
— Ненаглядны цьвяток,
Расьпяшчоны вясной
І зялёны кусток
Там гукае са мной.
Над ракою лазьнік
Шэпча басьні свае,
Ручаёк — чараўнік
Ловіць думкі мае.

Воддаль бор на гарэ
У задуме стаіць,
На вячэрняй пары
Вечна штосьці таіць.
Як захоча адкрыць
Усе тайны свае
Тады горда шуміць
Або песьні пяе...
Выдзі, браце, на луг
Адпачыць на траве —
Там усё увакруг
Кліча, цягне, заве...

**Коко.**

## ОЙ, НЯ ТРЭБА МНЕ...

Ой, ня трэба мне пасады,
Ой ня трэба, не,
Дайце хутарам зямельку,
Дайце, дайце мне!
Рангі я заткнуў за пояс,
Глыбака туды.
Дайце толькі мне зямелькі
Ля гэтай вады.

Вось ля гэтых трох дубочкаў,
Што мой дзед любіў,
А татулька старшынёю
Тут гарэлку піў.
Я ня п‘ю, дык аддыхаю
Посьле ўсіх трудоў.
Дайце-ж тут зямелькі хутар
Хоць праз пяць гадоў.

Я прашу, хто сілу мае,
Гэтым заўладаць:
Толькі тут, ля трох дубочкаў
Хутарок мне даць.

**П. Продухо.**

# З мінулых дзён.

(Успаміны). 2)

## II.

Немцы, прышоўшы да нас, пачалі заводзіць свае „парадкі“; як прыказка кажа: „кожны па сваему ад розуму адходзе“, так і тут было тое самае. Жывёлы, якая была астаўшыся ад рускага, — за ноч ня стала, усю немец перадушыў за адну ночку.

Раніцай, вылязшы з акопа, усе, як старыя так і маладыя, пашлі ў вёску глядзець гэтых нямецкіх „парадкаў.“ Помню, як сягоньня, калі прышоў да суседа ў хату, убачыў я, як пасярэд хаты стаяў вялікі цэбар, напоўнены курынай і гусінай крывёй, уся вуліца была засыпана пёр'ямі, а выган і гарады—саломай, сенам і збожам, якое жаўнеры павыцягівалі з гумнаў. Паглядзеўшы на ўсё гэта, як нішчылася праца людзкая, над каторай многа, многа пралівалася поту, так што маглі-б паўстаць новыя рэкі і акіяны,—сумна стала. Немцы ад нас усё пазабіралі: як вазы, сані, бароны, сохі, а нават якія былі вяроўкі і наагул самую драбязу. Восьжа ў маей памяці асталіся „забраныя вяроўкі,“ праз каторыя мне прышлося цэлую зіму хварэць. Гэта было так: немец, забраўшы нашыя вяроўкі, прычапіў іх да студні, каб можна было даставаць ваду; я, быўшы тады яшчэ зусім малым, пашоў да студні, адчапіў гэныя вяроўкі, скруціў іх і як мага бегам да акопу. Наліха дало гэта заўважыць немцу, ён калі скочыў за мною, ды так моцна крыкнуў панямецку, што мне аж цёмна ў вачох зрабілася і я сам ня ведаў, куды і гдзе ўцякаць; праз некалькі мінут, калі дайшоў троху да памяці, — ляжаў у акопе і нада-мною стаяла сабраўшыся многа кабет, што паміж сабою радзіліся і адна з старэйшых казала: трэба зёлкамі пакурыць... Праўда, праз некалькі дзён пасьля тэй перапугі, я хадзіў па хатах, гдзе жылі немцы і з імі пачаў трохі неяк ладзіць: прынясу каторому вады і так чым услужуся, а за гэта атрымліваў ад іх невялічкі мяшочак салодкіх сухаркоў, да якіх вялікі меў смак.

Стрэлы чуліся хвілёва, бывала, у дзень якія дзьве-тры гадзіны ня чуваць стрэлаў; тады так зробіцца на-дварэ ціха, спакойна, што здаецца ўсё замёрла на векі... як зямля, так і сонца і зоры... Салдаты і тыя, лёгшы гдзесь пад кустком, спакойна адпачывалі на вольным, лёгкім і сьвежым паветры. Часам катораму, відаць, штосьці забаліць, бо так цяжка застогне, што здаецца ён зараз памрэ. У гэту спакойную часіну прывозілі раненых у адну хату—шпіталь. О, Божа! Які-ж страх агартаў мяне, гледзячы на гэтых няшчасных людзей, што енчылі ад вялікага болю і смагі і тольկі рукі выцягівалі да людзей, просячы „васар мутар! васар

мутар!“ — вады матка, вады матка. Кабеты пробавалі падаць, але немец не пазваляў і адганяў усіх ад гэтых няшчасных людзей. Шмат бедакоў адыходзіла на той сьвет, ня было таго дня, каб ня прышлося хаваць двух, трох, чатырох і болей чалавек.

Магільнік немцы дужа прыгожы зрабілі, абгарадзілі навокал плотам, з камецьняў вымуравалі невялічкі памятнік з надпісам нейкім — ніхто ня мог прачытаць, бо панямецку. І на гэтым-жа магільніку капалі магілы, гдзе клалі па некалькі чалавек у адну; магілку абкладалі дзярном і на верх ставілі крыж з надпісам.

Аднаго вечара многа немцаў пасядала на вэлясыпэды і паехалі ў старану лесу, аж раптам іх сустрэў знарад, які шмат пазабіваў і параніў, у гэтай лічбе быў забіты і нямецкі ксёндз. Назаўтра раніцаю хавалі аднаго толькі ксяндза, а учасьце ў гэтых хаўтурох і мы прымалі. Калі апусьцілі яго ў магілу, тагды старшы падаў каманду, а салдаты некулькі разоў выстралілі і штось панямецку засьпявалі. Гэта песьня кожнага, хто быў там, сьціскала за сэрца, што аж сьлёзы пачалі капаць з вачэй! Магілку прыгожую зрабілі, на верх было паложана некалькі вянкоў і абразкоў з надпісамі, хто іх клаў. Яшчэ і да сягоньняшніх дзён ляжаць гэтыя вянкі, толькі пааржавелі.

Гэтак, увесь час ходзячы і гледзячы на такія страшныя падзеі, стаў я неспакойны, а бывала прышоўшы да акопу і сеўшы на якім-небудзь каменьчыку, або бервянцу і пачыналі мне ў галаве раіцца розныя дзіўныя думкі, што аж часам есьці не хацелася. Няраз маці кліча на гарачаю бульбу:

— Ідзі скарэй есьці, кажа, бо бульба астыне?—Бывала тагды, што слоўца і загрубенькае выскача:

— Не хачу!

Але калі ўспакоіўся, то памаленьку ўлазіў у вакно і прасіў выбачэньня ў маці, а маці давала есьці. Пад'еўшы, калі было спакойна,—вылазіў наверх, а калі не — дык прыходзілася сядзець, як птушцы ў клетцы; але што-ж можаш зрабіць на такі час жыцьцёвы? Няраз думалася: Божа, мой Божа, ці калі гэта ўсё зьнішчанае паўстане, пабудуецца нанова, ці не! Гэта ж прыдзецца не аднаму чалавеку жыць цяпер пад голым небам, гдзе можа яго напаткаць голад і холад, нуда і бяда! З другой стараны, штосьці шаптала: не бядуй — пакуль вырасьцеш, то ўсяго можа быць: там, гдзе цяпер стаялі старэнькія хаткі, — будуць стаяць новыя, гдзе лясы былі — будуць засеяныя збожам нівы, а гдзе былі зялёныя загоны — там лясы могуць вырасьці.

Дзень за днём праходзяць, а мы як сядзелі ў акопе, так і сядзім, у хату не пазваляюць перабірацца, бо там

жывуць ахвіцэры, а ў гэтым акопе такая сырасьць, што пачынаюць хварэць малыя дзеткі а нават некаторыя і з старэйшых. Я доўга не паддаваўся хваробе, а нарэшце такі аблажыла яна мяне і мусіў легчы ў ложка. У гэтым душным акопе малая надзея была на папраўку; днём, калі было спакойна і цёпла, выносілі мяне на двор, клалі на саломе, тагды рабілася трохі лягчэй.

Вось адзін раз, як ляжаў на дварэ, прышлося заўважыць нейкую „птушачку", якая круцілася непадалёку ад нашага акопу, — гэта быў рускі аэраплан, які кінуў пару бомбаў у нямецкіх салдатаў і сам як мага ўцякаў за лес. Папалоханыя немцы падымалі крык, беглі да сваіх гарматаў і стралялі ў яго, але напрасна; мяне, хворага, у той час хваталі скарэй і ўносілі ў вакоп.

Сонейка пад поўдзень пачало мацней прыгравацъ, хоць было ўжо зусім слабое, бо восень наносіла халодных вятроў. Лісты з дрэваў з кожным днём шпарчэй пачалі падаць і пакрываць зямельку, як узімку сьнегам. На палёх яшчэ віднеліся пасохшыя бульбоўнікі і несабраныя ляны, або аўсы. У гародах стаяла счарнеўшая ад дажджу капуста і тырчэлі цыбукі памідораў, бобу і фасолі. Сады зусім былі акалочаныя немцамі, так, што нігдзе ня было відаць аніводнага, хоць-бы на лякарства, яблычка, ці грушкі, усё для „добрага госьця" прыгадзілася падчас гашчэньня на нашай зямельцы!

У адну нядзелю немцы запрасілі нашых жанчын, каб яны напяклі для іх бліноў. Просьба была споўнена. Наеўшыся нашых смачных беларускіх бліноў, немцы цяпер толькі пазволілі ўвайсьці нам у сваю родную хату і для сябе сьпячы хлеба, ці які прасьняк. Кабеты ў гэту хвіліну многа мелі работы, мусілі вялікую дзяжу зарашчыняць хлеба, каб было на доўгі час, бо можа ня скора гэта шчасьце ізноў пакажацца для іх... Пасадзіўшы хлеб у печ, самі прышлі да акопу на сьняданьне, а праз пару гадзін пайшлі даставаць з печы хлеб,—аж там ужо раней за іх пастараліся дастаць немцы і разьдзяліць паміж сабой, а нашыя кабеткі паміж сабою падзяліліся толькі сьлёзамі!... Вось такая была „заплата" за бліны, якія пяклі для „добрых ягамосьцяў," пануючых па нашых хатах і не спагадаючых, што кабеты з малымі дзяцьмі душацца ў зямлі — акопе!..

Вось якія „парадкі" заводзілі немцы над нашым беларускім народам падчас сусьветнай вайны!

Нядоўга прышлося нам сядзець у гэтым акопчыку, ну можа якія тры тыдні. Аднаго дня прынёс старшы немец паперку ад каманданта, гдзе пісалася, каб мы да заўтрашняй раніцы спакавалі ўсе свае рэчы і прыгатавалі возы. Калі гэта ўсё было зроблена, раніцай прыехала нейкіх з пяць немцаў конна, якія прыгналі з сабою яшчэ адну

фурманку, на якой сядзеў нейкі старычок, каторага немец увесь час сьцёбаў па плячох нагайкай, а за што — ніхто ня ведаў. Мо' ён ехаць не хацеў, а можа так з якой прычыны, адзін Бог толькі ведаў! На гэту новую фурманку палажылі так-жа некалькі пакункаў маей цёткі — удавы, якая ня мела каня.

У майго бацькі быў якраз тады зусім маладзенькі канёк, каторага перад прыходам вайны купіў у Крэве за 40 рублёў; ня мог ён яшчэ шмат чаго на воз палажыць, — бо баяўся, што конік не пацягне. Але неяк было ўладжана,— што пакінулі, а што з сабою забралі — і паехалі ў дарогу. Яшчэ мелі адну-адзіную пацеху — гэта кароўку, але не на доўга, бо кожны дзень немцы прыходзілі па яе, прасілі бацькі, каб „прадаў" ім, а цяпер,—прад выездам,—прышлі, далі бацьку нейкую картачку ў рукі, а самі адвязалі ад плоту кароўку і павялі да свайго лагеру. Праўда, што за два гады атрымалі грошы за гэну карову, але колькі? Сьмех і казаць! Калі сабраліся ў дарогу з гэтым маладзенькім каньком, катораму мо' прыдзецца гэтулькі дарогі прагайсаць, і калі ўсе суседзі з вёскі зьехаліся ў наш канец, двух немцаў заехала наперад, адзін з-заду і двух па-бакох гэтага абозу і чакаюць, пакуль старшы падасьць каманду. Старшы сядзеў на добрым белым кані, з паперамі ў руках і ўсё нешта ў іх прыглядаўся і з другім радзіўся.

Праз некалькі мінут даў знак рукой, каб памаленьку ўжо рушылі. І вазы пачалі пасоўвацца ўперад...

Раптам пачуўся плач, енк кабет і дзяцей, каторыя разьвітваліся са сваім мілым кутком, ня ведаючы, надоўга ці накоратка, а мо' і назаўсёды!...

**Янка Ваўштолскі.**

---

Вольная Трыбуна.

## Адказы і ўвагі на пытаньне: Якімі літарамі маемо друкаваць „Шл. Моладзі".

*Зьмяшчаючы адказы і ўвагі ў справе так важнага пытаньня, якімі літарамі маемо друкаваць „Шлях Моладзі," паважаным аўтарам даем поўную свабоду выказываць іх думкі.* РЭДАКЦЫЯ.

21.

„Шлях Моладзі", на мой погляд, трэба друкаваць выключна лацінкай, аднак на час пераходу (гэта можа нават быць праз даўжэйшы час) некаторы аддзел (пр. літэратурны, або карэспандэнцыі) трэба друкаваць гражданкай, каб не забывацца і гражданкі і магчы ка-

рыстаць з тэй беларускай літэратуры, каторая ўжо ёсьць гражданкай.

Пры гэтым дадаю, што ня толькі я гэтага пагляду, але з кім у нашай меснасьці здаралася гаварыць, кожны усе былі такіх самых поглядаў.

Жодзішкі. **Э. Сталь.**

22.

Што датычыцца шрыфту гражданкі, то як для нашай мяйсцовасьці, дык гэты шрыфт ёсьць больш пажаданы, бо амаль кожны з ім знаёмы; што-ж датычыцца каталікоў, то яны таксама ўсе знаюць гражданку, а каторыя ня знаюць, то хоць ім надрукуй лацінкай, — яны чытаць ня будуць, бо ня цікавяцца.

Хто чым зацікавіцца, таго навучыцца.

**А. Семашкевіч**

22 г., праваслаўны з Маладэчаншчыны.

## Пісьмо з вёскі.

### ПОЛЬСКАЕ КСЯНДЗОЎСКАЕ „STOWARZYSZENIE."

**в. Шантароўшчына**, Парпліская гм., Дзісьненская пав. Недалёка ад в. Шантароўшчыны знаходзіцца вёска Дзеркаўшчына, дзе ёсьць касьцёл, а пры ім ксёндз, які хочачы праводзіць „культуру" сярод моладзі, сарганізаваў „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej", хоць польскае моладзі там і сьледу няма. Але, ведама, як ёсьць сала, то і кот знайдзецца,—знайшлася і моладзь беларуская, каталіцкая, якая пайшла ў гэтую „шопку", ня маючы паняцьця, што такое „Польскае Стоважышэне," сьвята слухаючы ксяндза, які выкарыстоўвае яе зусім ня ў кірунку рэлігійным,— а ўгаварвае, што каталік— гэта паляк, а праваслаўны — расеяц.

Аб „культурнай працы" гэтага „Стоважышэня" гавораць наступныя факты: кіраўнікі „стоважышэня" імкнуцца да таго, каб расьціць ненавісьць паміж беларусамі праваслаўнымі і каталікамі, каб моладзь гаварыла толькі папольску; калі-ж ладзіць гэтае „стоважышэне" якое-небудзь прадстаўленьне, ці „забаву" то апошнія бадай ніколі не абыходзяцца спакойна.

І так напр., калі ксяндзоўскія „польскія стоважышэнцы" заглянулі ў в. Шайтароўшчыну і падхмяліўшыся добра пабачылі на сваіх „папісах" жыдка, зьбілі яго і зрабілі „рэвізію" ў кішэнях, пасьля якой быццам пагінулі вэксалі і дакуманты.

Вось да чаго дайшло ксяндзоўскае польскае „Stowarzyszenie."

Пара здаецца было-б ужо адумацца і кінуць слухаць ксяндзоўскіх палянізатарскіх навучак аб каталіку-паляку і праваслаўным—расейцу, а ўзяцца за рэальную культурную работу на сваім родным беларускім грунце.

Л. Міхнадавічанка.

# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

Матура. Сёлета ў Віленскай Беларускай гімназіі атрымалі матуру наступныя 21 вучні: Астроўскі Віктар, Багдановіч Глеб, Будзька Чэслаў, Бурак Язэп, Быхавец Аўгень, Давідовіч Іван, Касяк Іван, Чартовіч Браніслаў, Лукашэвіч Раіса, Мамчыц К., Міхалевіч Наташа, Парфенаў Ул., Пяцюкевіч Віктар, Радзюк П., Рубін Васіль, Шчасны Міхал, Смаленскі Валентын, Стэповіч Бэрнард, Шутовіч Ганна, Татарыновіч Міхаліна, Тышкевіч Аўгень і адна экстэрністка Н. Сіняўская.

13 чэрвеня матурысты ладзілі разьвітальную вечарыну, падчас якой адыграны былі дзьве п'ескі: С. Сарокі — „Праклён" і „Пінская Шляхта" В. Д.-Марцінкевіча.

14-га-ж чэрвеня адбылася ў памешканьні гімназіі супольная разьвітальная вучыцялёў з матурыстамі гарбатка, у часе якой прамаўлялі дыр. гім. Міхалевіч, вучыцялі Кс. Ад. Станкевіч, Р. Астроўскі, А. Луцкевіч, М. Ільяшэвіч, В. Грышкевіч і вучні: В. Багданнвіч, Смаленскі і Быхавец.

Ад сябе жадаем матурыстам пасьпеху ў далейшых навуках і плоднае працы на беларускай адраджэнскай ніве.

Не зацьвердзілі. Закладчыкі беларускага гімнастычнага таварыства „Гайсак" атрымалі адмоўны адказ ад Міністэрства Ўнутраных Спраў на просьбу зацьвердзіць статут гэтае арганізацыі.

Вечарына. 20 чэрвеня Беларускі Студэнскі Саюз ладзіў у салі Віл. Бел. Гімназіі спэктакль-вечарыну, у часе якой ставілі п'есу „Змагары за ідэю".

Экскурсія. У пачатку чэрвеня вучні V-ай клясы Віл. Бел. Гімназіі з сваімі вучыцялямі ладзілі экскурсію ў Наваградчыну. Адведалі яны возера Сьвітэзь і ваколіцы, а такжа выстаўку, якая наладжана ў сувязі з юбілеям вялікага паэта, земляка Наваградчыны,—Адама Міцкевіча. Цікава адзначыць, што Наваградзкае стараства забараніла вучнёўскай аркестры беларускай гімназіі іграць ідучы праз м. Наваградак.

Пратэст. 23 чэрвеня беларускае студэнства У.С.Б., у сувязі з ліквідацыяй польскімі ўладамі Клецкай Беларускай Гімназіі, ладзіла сход, на якім вынесла пратэст супроць паступку Віленскага Куратарыюму адносна гімназіі.

Канфіската. Віленскае Гарадзкое Стараства 17-га чэрвеня сканфіскавала „Беларускую Крыніцу“ № 20 за зьмяшчэньне стацьці п. н. „Польскія Жодзішкі ў Латвіі“.

Новы Гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культ. арганізаваўся ў в. Кейпуны, Віл.-Троцкага пав.

Беларускія студэнты ў Чэхаславаччыне. Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў у Празе Чэскай (А.Б.С.А.) у м-цы чэрвені выдала Бюлетэнь А.Б.С.А., у якім паміж зьмешчанымі стацьцямі і пратэстамі супроць уціску беларускага Народу знаходзім вестку, што 9-га жніўня с. г. у Румыніі ў Букарэшце адбудзецца чарговы міжнародны Кангрэс студэнскіх арганізацыяў, якога сябрам ёсьць і АБСА. Удзел беларускага студэнства на гэтым Кангрэсе ёсьць дужа патрэбны, тымбольш, што ў часе ягоных абрадаў маюць выступіць польскія студэнты з дамаганьнем выключыць з ліку сяброў Кангрэсу студэнтаў беларусаў і Украінцаў. На паездку на гэты Кангрэс трэба шмат грошай, якіх якраз АБСА ня мае і дзеля гэтага зварочваецца з просьбай да ўсяго беларускага грамадзянства памагчы матэр'яльна ў гэтай так важнай справе. Беларускае грамадзянства бязумоўна павінна ацаніць важнасьць удзелу беларускіх студэнтаў у міжнародным Кангрэсе і пасьпяшыць з ахвярамі. Кожны павінен хоць мінімальны зложыць датак для АБСА. Адрас для перасыланьня ахвяраў: — Ing. C. Lev Hirys, Praha II, Wenzigova 4. Czechosłowacja.

### З украінскага жыцьця.

У Львове 14 чэрвеня ўкраінская моладзь урачыста сьвяткавала юбілейнае сьвята Моладзі „Роднай Школы.“ Сьвяткаваньне распачатае дэфілядаю аддзелаў украінскае моладзі перад Мітрапалітам Шэптыцкім і публікай адбылося на пляцу Сакола — Бацька, дзе былі выканаваны гімнастычныя практыкаваньні і інш. У сьвяткаваньні брала ўдзел больш як 10.000 асоб. — 7 чэрвеня ўкраінскае грамадзянства ўрачыста сьвяткавала 30-я ўгодкі прабываньня Мітрапаліта Анд. Шэптыцкага на мітрапалічым прастоле.

### З Польшчы.

— У ўрадзе зайшла невялікая зьмена, бо віцэ-міністрам вайны назначаны ген. Складкоўскі, дагэтуляшні міністр унутраных спраў, а міністрам унутраных спраў назначаны

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багданвіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

віцэ-міністар Перацкі.—Чувацъ, што Урад гатуе новы, страшны для студэнскай моладзі закон, які пазбавіць моладзь бяднейшых бацькоў магчымасьці здабыцьця навукі. Паводле гэтага закону мае быць павышана плата за навуку на ўнівэрсытэце да 1200 зл. у год.—Апошнім часам па работніцкіх местах вельмі часта бываюць дэманстрацыі безработных, якія часта крывава канчваюцца. І так 18.VI. падчас аружнае сутычкі дэманстрантаў з паліцыяй у Катовіцах,—1 чал. забіты, 3 цяжка і некалькі лёгка раненых з боку работнікаў, з боку паліцыі ранена 16 чалавек. 21.VI. у Варшаве падчас дэманстрацыі ранена 10 чалавек.

## З заграніцы.

— У Празе у Чэхаславаччыне 28 чэрвеня с. г. распачаўся міжнародны зьезд скаўтаў, на які прыбыло з усіх старон больш 16 000 асоб.

— Францускі парлямант выняс пастанову, паводле якой урад мае права будаваць 3 новыя ваенныя караблі.

— У Англію нядаўна езьдзілі нямецкі канцлер Брынінг і міністр загр. спраў Курцыюс, якія вялі канфэрэнцыю з англійскім прэм'ерам Мэк-Дональдам і мін. загр. спраў Гэндэрсонам у справе сучаснага цяжкога гаспадарчага палажэньня Нямеччыны і сплаты ваенных даўгоў, якія вельмі цяжка адбіваюцца на нямецкай дзяржаве. Вынік канфэрэнцыі паводле газэтных вестак такі, што быццам англійскія прадстаўнікі нічога ня маюць проціў перагляду дагавораў у справе сплаты даўгоў; даведаўшыся аб гэтым таксама францускія ўрадавыя кругі гавораць аб палёгцы, але аканчальна ўсё гэта залежыць ад Зл. Шт. П. Амэрыкі. І восьжа прэзыдэнт П. Амэрыкі Гувэр таксама гэтай справай зацікавіўся і мае выслаць у Нямеччыну сваіх прадстаўнікоў дзеля спраўджэньня фактычнага стану нямецкае гаспадаркі і магчыма, што і Амэрыка пойдзе на пэўныя гаспадарчыя ўступкі для Нямеччыны. Паводле апошніх вестак Амэрыка згадзілася даць Нямеччыне на 1 год мараторыюм (адклад) у сплаце ваенных даўгоў. На гэтакі адклад згадзіліся Англія, Францыя, Японія і Італія. У адказ на візыту нямецкую ў Англіі, маюць прыехаць 17 ліпня ў Нямеччыну англійскі прэм'ер Мэк-Дональд і мін. загр. спраў Гэндэрсон. — Францыя, бачачы флірт Нямеччыны з Англіяй, зачынае фліртаваць з ССРР. які аднак большую дружбу вядзе Нямеччынай і аб выніках француска-савецкіх канфэрэнцыяў паведамляе нямецкі ўрад. — Бальшавікі канчаюць быццам ужо „пяцілетку,“ і думаюць арганізаваць другую. Троцкі ў сваіх апошніх артыкулах даказвае, што „пяцілетка“ для ССРР. ніколі не прынясе таго „раю,“ якога яны спадзяюцца. Пажывём—убачым.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# Усячына.

Дзеляць неба. Апошнім часам праўнікі разглядаюць справу падзелу неба. У Амэрыцы ў Вашынгтоне Кангрэс праўнікаў яшчэ ў 1901 г. пастанавіў, што „паветраны прастор неба над Амэрыканскай тэрыторыяй належыць да Амэрыкі. Цяпер ужо справа разгляду неба набірае больш рэальную форму і магчыма што неба будзе так падзелена, як марскія воды. Падзел гэты вымагаецца з прычыны таго, што цяпер людзі выкарыстоўваюць нават і прастор неба, напр. для лятаньня сьвятляных рэклямаў і інш.

Аэраплян за 950 марак. У Фрыдріхстоне ў Нямеччыне адно з найрухліўшых лятунскіх таварыстваў пабудавала новы аэраплян, кошт будовы якога выносе 950 марак нямецкіх г. зн. якіх 2000 зл. польскіх. Аэраплян гэты невялікі, важыць усяго 120 кіляграмзў, маторы ягс маюць 14 конскіх сіл і праляцець ён можа ў гадзіну 90 кілямэтраў. Навучыцца лятаць на ім можна за адну гадзіну.

„Цэпэлін“ ляціць на паўночны полюс. 20 ліпня с. г. з Нямеччыны мае выляцець на вялікім нямецкім лятаўцу „Цэпэліне“ навучная экспэдыцыя на паўночны полюс. У экспэдыцыі бяруць учасьце вучоныя Нямеччыны, Швэцыі, Амэрыкі і С.С.Р.Р. Кіраваць экспэдыцыяй будзе др. Экэрт (Немец) і праф. Самойлавіч (савецкі вучоны), які ў сваім часе ратаваў экспэдыцыю Нобіля. „Цэпэлін“ ляцець будзе да паўночнага полюса панад Ленінградам, Архангельскам і Паўночнай Зямлёй.

„Наўтілюс“, — падводная лодка, на якой амэрыканскі вучоны Вількінс хацеў даехаць да паўночнага полюсу і якая ў пачатку чэрвяня выехала ў падарожу, праплыўшы нявялікую частку свае падарожы, сапсулася і толькі пры помачы карабля, які ў гэтым часе праплываў недалёка, удалося падводную лодку, а разам і групу вучоных, якія ў ёй знаходзіліся прыцягнуць да найбліжэйшага порту. Шкоды вялікія і лодка вымагае папраўкі.